АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

16 – 22 КРАСАВІКА 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 20000 РУБЛЁЎ
№16 (208)

МАЛАДЗЕЧНА–МЯДЗЕЛ–СМАРГОНЬ

## Беспарольны Internet

Для аматараў сусветнай інфармацыйнай сеткі Internet стала неабавязковай ранейшая працэдура заключэння дагавора са службай «Белпак», якая, у сваю чаргу, уваходзіць у «Белтэлекам». Жыхары Маладзечна (даведкі можна атрымаць па тэл. 51958), Смаргоні, Мядзела – з ліку тых, натуральна, хто мае камп"ютэр і мадэм, цяпер могуць набраць нумар 8–600–100 і апынуцца ў сусветным «павуцінні».

У новаўвядзення ёсць, безумоўна, свае плюсы і мінусы. Зрэшты, з"явілася хаця б магчымасць выбраць варыянт падключэння.

Варта чакаць, што новы від паслуг справакуе «тэхнічныя таленты», у прыватнасці, на падключэнне да чужых тэлефонных ліній.

*Аддзел інфармацыі.*

МІНСК

## На забруджанай тэрыторыі

Сярод удзельнікаў міжнароднага форуму па праблемах Чарнобыля, які арганізавалі недзяржаўныя арганізацыі, прысутнічалі і валожынцы – медыкі раённага тэрытарыяльнага медаб-'яднання **Валянціна Шаўрда, Хрысціна Караленка**, адміністрацыя Сівіцкай, Каменскай школ.

Нашы разам з прадстаўнікамі дэлегацый Англіі, Польшчы, Расіі, Украіны, Беларусі распрацоўвалі мэтавую праграму па рэабілітацыі дзяцей, што жывуць на забруджанай тэрыторыі.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Вясну гукалі эстэтычна



ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

На мінулым тыдні Цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў на пляцоўцы ў цэнтральным парку паказаў абрад "Гуканне вясны".

Дзеці з трыццаці аднаго класа гарадскіх школ займаюцца ў цэнтры на ўроках эстэтычнага цыкла (вывучае народныя святы). І кожны клас удзельнічаў у тэатралізаваным прадстаўленні. Было і падкіданне галёпаў, і вогнішча – сімвал пераадолення зімовай цемры. Зрэжысіравала гуканне загадчык аддзела цэнтра **Марына Полаз**.

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

## Паляванне за танным хлебам

Ад 6 раніцы трэба займаць чаргу ля вагончыка "Гарачы хлеб", што па вуліцы Чапаева. Ідзе сапраўднае паляванне за танным, па 11 тысяч, хлебам.

Танных боханаў штодня даюць у гандаль 700–750 штук. Гэта, прыкладна, па 60 у адзін гандлёвы пункт. У адміністрацыі хлебазавода гавораць, што гэты хлеб – для маламаёмных. А павялічыць яго выпуск немэтазгодна – і без гэтага страты завода штомесяц павялічваюцца.

*Алена ІРЫСАВА.*

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

# "Яловая шышка" дажывае свой век

### Выселкі прыгараднага Гелянова з часам сталі цэнтрам Маладзечна. Але нічога ад гэтага не выйгралі.

*МАЛАДЗЕЧНА. Аўтобусны прыпынак "Зялёны гарадок", мусіць, таму так і называюць, што праз плот у межах цэнтральнага парку стаяць старыя хаціны. У народзе гэтае месца завецца інакш: мікраён "Яловая шышка".*





*Старэйшы жыхар «Яловай шышкі» Пётр Шкленнік і яго хаціна.*

Калісьці тут стаяла больш за 10 хат. З гадамі мяняліся назвы вуліцы (Віленская, Камуністычная, праспект Леніна, Вялікі Гасцінец), разбураліся дамы, паміралі людзі. **Пётр Шкленнік** тут і нарадзіўся, у доме №97. Памятае, калі вучыўся ў чацвертым класе СШ №2, гараджане заклалі на іх зямлі парк культуры і адпачынку. Школьнікам давалі план – пасадзіць па 10 прывезеных дрэў. Зямля Шкленнікаў даходзіла аж да Гелянова. А дом продкі збудавалі яшчэ да кастрычніцкай рэвалюцыі.

– 48 год таму, – успамінае гаспадар, – дамы пачалі зносіць. Таму штогод папярэджвалі: нічога не садзіце, не будуйце.

На вызваленым месцы хацелі палац спорту ўзводзіць. І так атрымалася, што з часам дом амаль што згніў, а перавезці у добраўпарадкаваную кватэру не атрымаўся.



*Без сабакі ў парку не абысціся.*



*Побач – аўтобусны прыпынак. Многія маладзечанцы нават і не падазраюць пра існаванне побач цэлага «мікраёна».*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

Дом Шкленнікаў гарэў. Пасля вайны побач сталі вайскоўцы. Салдаты для пацехі стралялі з ракетніц і трапілі ракетай у хлеў.

Сёння "шышкарам" (засталіся тры жылыя дамы) даводзіцца як ніколі цяжка. Іх "мікраён" абгароджаны плотам, кустамі і дрэвамі. Калі з цэнтральнай вуліцы можна праз плот пралезці, каб зайсці ў хату, то прывезці дровы ці нешта іншае немагчыма.

Два гады таму прывезлі Шкленнікам брыкет. Машына з грузам паехала назад, бо не было магчымасці разгрузіцца. Хвораю маці ў машыну "хуткай дапамогі" на руках перадавалі праз плот. А сена на тачцы вазілі ад гасцініцы.

Раней гаспадары трымалі козачку, трусоў. І не радыя былі гэтай гаспадарцы. Побач – выгул для сабак, таму чатырохногія часцяком гасцявалі на двары. А ў вячэрні час стала традыцыяй прымаць незнаёмцаў:

– Дай шклянку!

– Дай вады кроў змыць!

– Колькі ля дома забойстваў было – не пералічыць, – успамінае Шкленнік.

– Мы сябруем з жанчынай, і тая заходзіць да нас у госці, – гаворыць яго жонка Марына, – дык аднойчы пачула крыўдлівае, як у той праважатых пыталіся: навошта вы ў гэтыя дамы ідзяцце, ці могуць там жыць нармальныя людзі?

Сапраўды, дамам мікраёна "Яловая шышка" патрабуюцца падпоры. Без іх хутка мусіць заваліцца дах. А людзі мікраёна, на здзіўленне, добрыя. Сам Шкленнік, дарэчы, падпалкоўнік у адстаўцы. Жонка – былы работнік аптэкі. Абодва на пенсіі. Дачка з сям-'ёй жыве ў Адэсе.

У гаспадарцы Шкленнікаў засталіся Сільва, Кузя, Шура – сабакі. І два каты. Бе абакі аніяк. Чужы на двары – адразу сігнал. А такіх гасцей шмат. Нават удзень весніцы на двор зачыняюцца на вялікі свірнавы замок.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

ВАЛОЖЫН

## Выпраўляюць дэмаграфію

Вяскоўкі **Валянціна Харук і Уладзіслава Стральчук** нядаўна атрымалі ордэны Маці.

Усяго на Валожыншчыне 30 такіх жанчын. У іх сем'-ях выхоўваецца па 5 і больш дзяцей.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Нагадваем,

што пастановай Савета Міністраў, **рабочы дзень** з панядзелка, 19 красавіка, перанесены на суботу, **17 красавіка**.

АНОНС

# – Як вы ставіцеся да стану дарог у Вілейцы?

Такое пытанне задаў **Ігар Кіцікаў** вілейчанам. Што яны адказалі – чытайце, як заўсёды, перад праграмай тэлебачання, на 5–й старонцы. А вось як ацэньвае мясцовыя дарогі загадчык аддзела жыллёва–камунальнай гаспадаркі Вілейскага райвыканкома **Васіль Валадкевіч**.

– Стан дарог дрэнны, так. З усталяваннем сухога надвор'я пачалі ямачны рамонт (вуліца Гагарына, Вадап'янава). Пайшоў дождж, часова прыпынілі. Падсохне – будзем працягваць. У бюджэт горада закладзеныя сродкі на капітальны рамонт вуліц. У першую чаргу, будзем рамантаваць вуліцы Чапаева і 1 Мая.



*Тут – толькі з лоцманам. Ля могілак на Першамайскай.*



*Русалка памятае, што раней вілейскія дарогі былі лепшыя.*

ФОТА ІГАРА КІЦІКАВА.

*КОНКУРС*

# Фірма «Сатэр» атрымала залатыя нажніцы

***МАЛАДЗЕЧНА. Можна толькі здагадвацца, што было б, каб конкурс–паказ мадэляў адзення праходзіў у час, зручны не толькі для арганізатараў. І без таго ў рабочы дзень пасля абеду ў зале музвучылішча быў аншлаг. Гледачы сядзелі на падваконнях, тоўпіліся па–за крэсламі: хто не паспеў, той спазніўся. А ўражанне такое, што ў стотысячным горадзе на кожныя сто чалавек насельніцтва па адным куцюр'е.***

Конкурс праходзіў па 5 намінацыях: форменнае, ваеннае і рабочае адзенне; для моладзі, адпачынку і спорту; для вуліцы; офіса; нараднае адзенне. Усяго прапанавана больш за 150 мадэляў. Фірма "Сатэр" запрасіла дырэктара сталічнага агенцтва мадэляў Аляксандра Варламава са сваімі манекеншчыцамі (90х60х90) прадставіць на конкурсе сатэраўскія фірменныя мадэлі.

Ці то дзякуючы выкладчыку сярэдняй агульнаадукацыйнай школы мастацтваў Ганне Макаравай за адпрацоўку з удзельнікамі выхаду на сцэну, ці то артыстызму манекеншчыц, але гледачы ўбачылі сапраўднае шоу. Тым больш, што, акрамя жаночых фігур, было на што паглядзець.

СП "ХайБел" сваіх дзяўчат выпусціла на сцэну басанож і загрыміравала іх пад жыхарак Афганістана. Тыя паказвалі мадэлі, выкананыя з дарагой нацыянальнай тканіны ручнога роспісу.

"Дзіната" прапанавала жанчынам шорты з камуфляжу. Каб не парушаць кампазіцыю, стужкі і банцікі на галаве таксама былі плямістыя.

Фабрыка пашыву і рамонту адзення дэманстравала ружовы трыкатаж. А работніца гэтага прадпрыемства Наталля Пташнік прапанавала шыкоўныя мужчынскія касцюмы з каўнярамі–стойкамі.

Калекцыя Таццяны Абалонскай "Экстэзі" быццам бы кідала выклік нашай закамплексаванасці – скураныя шорты, майкі, якія заканчваюцца вышэй таліі.

Прадпрымальніца Галіна Гарэльская паказала натуральнае футра, адзенне са скуры. Хоць і закончыўся зімовы сезон, у зале чуліся воклічы. І ад шыку, і ад магчымага кошту таго ж футра.

Дзяўчынкі–падлеткі нагадалі пра школьныя заняткі. Школьная форма "Дзінаты" была выкананая ў англійскім стылі: кароткая расклёшаная спаднічка, за плячыма рукзачкі. Моцны кантраст з нашым рыначна–калгасным стылем.

Акрамя мадэляў адзення, падабаліся, вядома, і тыя, хто гэтыя мадэлі паказваў. Хаця да прафесійных манекеншчыц Варламава нашым дзяўчатам пакуль далёка. Глядзеліся на сцэне нашы Каця Шарыпава, Ірына Пташкіна. Выходзілі на сцэну і пераможцы, удзельнікі апошняга конкурсу "Міс Маладзечна" Кацярына Акульская, Вольга Бобрык, Наталля Дземідзенка. Таксама аўтары сваіх мадэляў Людміла Патапава, Марына Татарыновіч, Таццяна Абалонская. З усіх дэманстрантаў было пяцёра мужчын.

Шмат уручалася заахвочвальных прызоў: сервізы, прасы, часопісы "Бурда". Самы галоўны прыз – брошку "залатыя нажніцы" (сапраўды з золата) – атрымала вытворча–камерцыйная фірма "Сатэр".

***Віталь КРУПЯНЬКОЎ.***





*Паказ чарговых мадэляў.*

ФОТА АЛЕГА БАШТАВЕНКІ.

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 7.04 | 14.04 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 340 | 350 |
| Кілбаса с/в | 1 кг | – | 1037 |
| Сасіскі | 1 кг | 451 | 472 |
| Селядзец | 1 кг | 280 | 300 |
| Рыс | 1 кг | 175 | 170 |
| Цукар | 1 кг | 135 | 135 |
| Грэчка | 1 кг | 140 | 140 |
| Алей | 1 л | 340 | 325 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | – | – |
| Маянэз | 250 г | ад 60 | 60 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 380 | 400 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 110 | 105 |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 110 | 110 |
| Лімоны | 1кг | 385 | 380 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 130 | 180 |
| Масла | 1 кг | 360 | 400 |
| Тварог | 1 кг | 140 | 150 |
| Малако | 1,5 л | 45 | 45 |
| Бульба | 1 вядро | 260 | 320 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 160–180 | 160 |

# 2 рублі за ікрынку

ВІЛЕЙКА. З надыходам цяпла на вадасховішчы пачаўся нераст шчупака. У гэты перыяд рыба збіраецца ў касякі, усе яе сілы накіраваныя на працяг роду, таму яна ўяўляе сабой лёгкую здабычу. І хаця існуе забарона на любы лоў у гэты час, усё ж знаходзяцца аматары дармавой рыбы.

Другі тыдзень у Вілейцы на рынку каля ДК прадаюць шчупакоў з колатымі ранамі. У нядзелю, калі я запытаў, колькі каштуе рыба (1,5 кілаграмы), жанчына спалохалася, схавала шчупака і нават адмовілася размаўляць са мной. У сераду ўжо іншая гандлярка прапанавала шчупака (1 кілаграм) за 400000 рублёў.

У гэтай рыбы можа быць да 200000 тысяч ікрынак. Гэта значыць, па 2 рублі за ікрынку.

***Ігар КІЦІКАЎ.***

*КРЫМІНАЛ. ЗДАРЭННІ. ХРОНІКА*

# Ахвяра зімовай рыбалкі

МЯДЗЕЛ. За два дні да таго, як з возера Мястра сышоў лёд, тут утапіўся 58–гадовы мясцовы рыбак.

Раніцай ён пайшоў на рыбалку і не вярнуўся. Труп знайшлі на мелкаводдзі. Цяпер на Мястры шмат байдарачнікаў.

***Алесь ВЫСОЦКІ.***

*СУВЯЗІ*

# Італьянцы інспектавалі хаты

МАЛАДЗЕЧНА. У базавую школу вёскі Мыслевічы прыехалі муж з жонкай з італьянскага горада Клузон.

П'ера і Віторыя прайшліся, у прыватнасці, па вясковых сем'ях – хутка адпраўка дзяцей на аздараўленне. На дзяцей паглядзець і сябе паказаць?

***Аддзел інфармацыі.***

*ПРЫРОДА І МЫ*

# Птушкі Вілейшчыны: чым больш памёту – тым болей грошай

***ВІЛЕЙКА. Галубы аблюбавалі гарышча ў дамах, накрытых пакатымі двусхільнымі дахамі. Як правіла, гэта самыя старыя будынкі горада. Некаторыя з іх з'яўляюцца помнікамі архітэктуры: будынак бальніцы – вуліца Вадап'янава, турмы – вуліца Першамайская, 50, гімназіі – вуліца Савецкая, 46, жылы дом – вуліца Чырвонаармейская, 28. Іх пабудавалі ў сярэдзіне мінулага – у пачатку нашага стагоддзяў.***

За гэтыя гады на гарышчах назбіралася вялікая колькасць памёту; прыкладам, у доме 38 па вуліцы Кастрычніцкай – каля 25 см, будынку толькі трохі больш за 30). Гэты памёт з'яўляецца своеасаблівым адсарбавальным слоем, які паглынае ўсю ваду, што ліецца праз дзіравы дах. А ў гэтых дамах ён сапраўды дзіравы, бо калі ўдзень паглядзець праз яго знутры, то згадваецца планетарый (на фоне даху зіхацяць мірыяды зорак–дзірак). Гэта не адзіны плюс. Прынамсі, галубіны памёт у прапорцыі 1 да 20 з вадой з'яўляецца добрым угнаеннем для хатніх раслін. Нездарма знаёмыя пытаюцца:

– Чаму так добра ў цябе растуць кветкі?

І яшчэ, што тычыцца галубоў: буркатанне гэтых птушак, якое чуваць праз вентыляцыйную шахту, гаворыць пра тое, што прыйшла вясна.

Калонія варон аблюбавала старыя дрэвы (парк, могілкі – вуліцы Кастрычніцкая, Першамайская). У час фарміравання пар (пачатак вясны) вароны спяваюць (каркаюць). Не ведаю, як дзе, а вілейскія пачынаюць "спевы" роўна а пятай гадзіне раніцы, што не надта падабаецца жыхарам, якія суседнічаюць з гэтымі "спявачкамі". Таму і выразаюць старыя, але яшчэ трывалыя таполі па вуліцы Кастрычніцкай, своеасаблівыя шматпавярхоўкі для птушак.

Але варона – гэта і вельмі хітрая птушка. Да прыкладу, калі ў Макаўі на дрэве супраць свайго дома паляўнічы застрэліў варону, дык астатнія перабраліся да суседа, які не мае стрэльбы. А наогул, варона знішчае шкодных насякомых, з'яўляецца санітарам горада.

На Вілейскім вадасховішчы сустракаюцца азёрная і малая чайкі (апошняя занесеная ў Чырвоную кнігу Беларусі). Яны акупіравалі астравы, якіх на вадасховішчы некалькі дзесяткаў. Аднаго разу ў час вываду птушанятаў, я пабываў на востраве каля вёскі Сосенка. Тысячы чаек, тысячы птушанят, тысячы яек...

Востраў пакрыты суцэльным слоем памёту, пуху, шкарлупіння, гэта сапраўдны птушыны базар (акрамя чаек, на востраве жывуць качкі і ластаўкі). Брыльянт у арніталагічнай кароне рэспублікі. Увосень, перад адлётам у вырай (чайкі зімуюць на Балтыйскім моры) часам птушкі залятаюць у горад. Гадоў з пяць таму зірнуў з акна дома па вуліцы Талстога і падалося мне, што выпаў снег – так шмат было чаек. З дачкой мы скармілі бохан хлеба за хвіліну. Падсілкаваныя птушкі рушылі ў дарогу.

На вадасховішчы, Віліі (ніжні парк), Лазневым возеры сустракаюцца лебедзі, іх падкормліваюць гараджане. У 1990 годзе на вадасховішчы я назіраў 8 птушак, у адной на назе было кольца з жоўтага металу з надпісам "Kaunus". Лебедзі – гэта сапраўднае ўпрыгожванне горада.

Калі на вас трапіў птушыны памёт, не трэба сумаваць, бо па прыкмеце – гэта да грошай. Таму: чым больш памёту, тым больш будзе грошай.

***Ігар КІЦІКАЎ.***



*Галубам цяпер някепска і на вуліцах.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

*ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ*

# Ля Даўгінава стралялі ў паліцыю

**Г. Вілейка (павет) Віленскай губ.**

5 апрыля ў рэстаране мешчане пілі, дый, відаць, перэпіліся праз меру, пачалі сварыцца і аднаму некалькі разоў усадзілі ў бок нож. Стараюцца вілейскіе мешчане!

***К—тя.***

**Валожын (Віленскай губ. Ашмянскага павета)**

Гэта звычайнае беларускае мястэчка, якіх многа ёсць у нашым краю; дзьве часьці габрэяў, а трэцьця часць будзе хрысціянаў, больш праваслаўных; калісь было больш каталікоў, а рэшта ўніаты, але пазней касьцёл забралі на цэркву, і зрабілося больш праваслаўных. У нас жыве земскі, следавацель; ёсць воласць, аптэка, 2 манапольки; ёсць 4 вучылішчы, у тым валасное рэмесленае, дзе вучаць плясьці кошыкі. Гарэлку ў нас смаляць усё больш і больш. Недаўна адзін мужык быў у гасьцях у свайго брата, парабка ў фальварку Шаповалах, ды так нарэзаўся спірту, што і да хаты не даехаў – дарогай памёр.

На сьвята быў сход, хочуць аткрыць сельскі банчок. Рэч вельмі добрая.

***Стары Улас.***

**М. Здарэньне, Віленскай губ. Вилейскага пав.**

Каму ня ведамы нашы дарогі – горы, каменьня, пяскі, грэблі ды канавы? Каму яны не вынімаюць дух найбардзей мокрай восеньню ды вяснаю?

Да гэтых дарог, што дух вынімаюць, належыць і наш Даўгіноўскі гасьцінец, што ідзе з Мінска на Доўгіново. Перш яго хоць гады ў рады возьмуць дзе–недзе, ды паправяць, а цяпер гэтаго нічога не відаць і ня чуць... Паводкі павымывалі канавы, пазносілі масткі, а некаторые праз старасьць знайшлі сваю пагібель у рэчках ды канавах, над якімі мелі нешчасьце быць праведзенымі. Праўда, ў найгоршых мейсцох зрабілі шоссэ на некольки вёрст, але што гэта значыць на які дзесятак міль?

Калі ня думаюць скрось будаваць шоссэ, дык варта было б хаця паправіць гасьцінец; гэтак трэба паправіць: каля м. Карпілоўкі – грэблю, каля вёскі Жукоўкі – масткі, пад Мацкамі – размоіны пад гарой: а ізноў у в. Лускове вельмі трэба выбрукаваць вуліцу, бо там увосень і вясной чыстае пекла, дый, як кажуць, і жыцелі гэтай вёскі, маючы ў сябе манапольку, ня вельмі падчас бываюць спакойнага духу, – найбардзей гэта цёмнай ночкай...

***Здарэнец.***

**М. Даўгіноў Віленскай губ. Вілейскага пав.**

У нас жывуць людзі розные: адны любяць такіе кніжкі, другіе – іншые. Пасьля таго, як закрылі нашу бібліотэку, усё–ж кніжкі для чытання можна дастаць у мястэчку. І габрэі маюць кніжкі і хрысьціяне. Толькі ёсць і шмат народу цёмнага, каторы нічога не чытае, не разумеючы, што ў кнігах ляжыць мудрасць і навука ўсяго свету.

Наша Даўгіноўская бібліотэка аткрылась першая ва ўсёй губерніі, але яе першую і закрылі; цяпер такі час, што трудна і аткрыць нанова.

Калісь у нас ніхто ня меў ні замкоў, ні ключэй, бо зладзейства не было; але цяпер ужо пачалі і красьці. Недаўна ўкралі ў мейсцовага старасты Савіцкага каня і 100 руб. грошэй. Вураднік наш ехаў з 2 стражнікамі у м. Крайск і спаткаў нейкіх трох невядомых людзей. Хацеў іх затрымаць, а тые сталі стрэляць у паліцыю. Скончылася тым, што спамеж гэтых трох аднаго падстрэлілі, і ўсіх іх заарэштавалі. Гэта маюць быць зладзеі.

Дагэтуль у нас ня чулі пра "саюзнікаў", ці чэрнасотнікоў, як яны самі сябе называюць. Але духоўная асоба, сідзелец і начальнік почты цяпер пачалі раздаваць чорнасоценные лісткі цёмным людзям, хаця мала хто дае веры гэтым лісткам.

***В. Сос—к.***

Першая Беларуская Газета з Рысункамі "Наша Ніва" №16 ад 16 апрыля 1909 г.

***Падрыхтаваў Алесь Высоцкі.***

*У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ*

# Рэгіянальная крыжаванка «Адна зямля»



*Калі правільна запоўніце клеткі па гарызанталях, дык у клетках па вертыкалях (выдзеленых тоўстымі лініямі) прачытаеце два добра знаёмыя вам словы.*

1. Найвялікшае возера ў рэгіёне. 2. У сярэднявеччы ў ім адбылася гістарычная падзея. 3. Змеепадобная рыба, далікатэс. 4. Рака, якая ўспамінаецца ў вершы А. Міцкевіча. 5. Горад паміж азёрамі Мястра і Баторына, на поўначы рэгіёна. 6. Аўтар паэмы "Нарач". 7. Цэнтр рэгіёна. 8. Горад, дзе нарадзіўся беларускі паэт Стары Улас. 9. Кардонная фабрыка. 10. Найвялікшы горад рэгіёна. 11. Горад, дзе існавала "Мядзведжая акадэмія". 12. Паблізу горада пахаваны Ф. Багушэвіч. 13. Паэт, які некаторы час жыў у Ракуцёўшчыне. 14. Гута (вырабляюцца гаспадарчы і аптэкарскі посуд, шкляныя слоікі і іншае). 15. Рака, якая працякае ў рэгіёне, яна ўвайшла ў гісторыю з–за падзей на яе берагах. 16. Горад, паблізу якога вялікі гідратэхнічны комплекс. Такую ж назву мае рака ў Чавускім раёне Магілёўскай вобласці. 17. Горад на рацэ Лоша, мяжуе з Літвой. 18. Вёска ў Вілейскім раёне. Такую ж назву носіць райцэнтр у Мінскай вобласці.

*Склаў Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

### *Адказы на крыжаванку, змешчаную у №15.*

**Па гарызанталях:** 7. Кінавар. 8. Лакатар. 9. Сум. 11. Кавардак. 12. Акупацыя. 13. Вынік. 14. Катух. 15. Фінал. 18. Дакука. 19. Агарак. 21. Хартыя. 24. Тамтам. 28. Буфер. 29. Чадра. 30. Папас. 33. Кананада. 34. Інтуіцыя. 35. Рур. 36. Каларыт. 37. Валынка.

**Па вертыкалях:** 1. Лінатып. 2. Гадавіна. 3. Бардо. 4. Валун. 5. Батаніка. 6. Дабытак. 9. Скнара. 10. Макуха. 16. Бухта. 17. Пасма. 18. Дах. 20. Кум. 22. Аператар. 23. Ясакар. 24. Турнір. 25. Апазіцыя. 26. Куратар. 27. Памылка. 31. Капыл. 32. Атлас.

*ДАМАШНЯЯ АПТЭЧКА ХУТКАЙ ДАПАМОГІ*

## Лімоны і цыбуля

### *Лімоны і цыбулю варта заўсёды мець дома.*

Пры разліцці жоўці піце неразведзены лімонны сок, змешаны з дробкаю звычайнай солі - па 1 маленькай лыжцы кожныя паўгадзіны. Пры кашлі і прастудзе добра прымаць лімонны сок з гарачай вадою, куды дадаць 3 бутоны гваздзікі і крыху мёду. Прымочкі з лімонным сокам да хворых суставаў, шышак на вялікіх пальцах і пухлінаў на паверхні цела (у тым ліку, і да ракавых) добра здымаюць боль.

Калі рыбная костка засела ў горле, свежы лімонны сок растворыць яе. Ён таксама здольны растварыць дыфтэрыйную плёнку ў выпадку яе ўтварэння ў горле.

Прымочкі з цыбулі карысныя пры пакусах і ўджальваннях насякомых. Талерачкі з нарэзанай цыбуляй добра паставіць па ўсім пакоі хворага для дэзінфекцыі паветра.

Папярэдзіць надыходзячую прастуду часам дапамагае ўдыханне паху нарэзанай цыбулі, ці можна пакласці ў рот кавалачак сырой цыбулі.

Воцат, змешаны з вадой у роўных частках, можна скарыстоўваць для асвяжэння скуры. Пры высокай тэмпературы ўсё цела варта абцерці губкай, змочанай у воцатнай вадзе. Воцатную кіслату (эсенцыю) прымяняюць для масажу пазваночніка, што падвышае тонус усёй нервовай сістэмы.

*Канстанцыя МЭЛАР.*

*НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ*

## З мінулай вайны

Ля Будслава фашысты абсталявалі палявы аэрадром, ахоўвалі чыгунку. Адзін з нямецкіх афіцэраў задумаў вітацца з мясцовымі жыхарамі так, як прынята ў Будславе. Знайшоўся "настаўнік", які навучыў фрыца замест "добры дзень" ці "добры вечар" гаварыць такія словы, што сорамна пісаць.

І вось той афіцэр, заходзячы ў хату, ці на вуліцы абкладваў будслаўцаў такім матам, што людзі чырванелі, маўчалі, баяліся адкрыць рот. І ўсё ж немцу хтосьці даў зразумець, што ён вымаўляе брыдкія словы, што ў перакладзе на нямецкую мову гучаць...

Раз''юшаны фрыц насіўся па вуліцы, заходзіў у хаты, шукаючы таго "настаўніка". Лаяўся, але на гэты раз па-нямецку. Лічыў, што зняславіў сябе, як афіцэра вермахта, прадстаўніка вышэйшай расы. Калі б сустрэў, то пусціў бы кулю. Пасля ж хадзіў з перакладчыкам і прасіў прабачэння за сваю ранейшую "ветлівасць".

## Жаночая перамога

Санаторый "Сасновы бор" за Радашковічамі. На кожным паверсе каляровы тэлевізар. Адных адпачываючых цікавяць тэлефільмы, другіх – "Вести", "Рэзананс", трэціх – "Барбара".

Густы, запатрабаванні падпарадкоўваюцца большасці.

Часам узнікаюць і канфлікты. Жанчыны за "Барбару", мужчыны за палітыку. Узняўся крык, вэрхал на ўвесь II паверх. Кожны адстойваў сваю пазіцыю. І хаця жанчын было менш, яны перамаглі. Не шкадавалі галасавых звязак, жэстаў.

Мужчыны суцішыліся. Хто глядзеў фільм "без канца", а многія паспяшаліся ў свае пакоі да рэпрадуктараў, узяліся чытаць кнігі, газеты.

## Абрабаваў ашчадны банк

Добры быў з дзядзькі Юркі ў вёсцы Суднікі пячнік. Складзе печку ці пліту – задавальненне гаспадару. Добра гарыць у ёй паліва, грэе памяшканне. Ад душы людзі, апрача аплаты, частавалі печніка. Ён прыходзіў дамоў вясёлы, частку заробку аддаваў другой жонцы (першая памерла). Жанчына не бурчала, не дакарала, што ў такім стане вярнуўся дадому, дапамагала распрануцца, на другі дзень яшчэ і чарку падносіла.

Усё ішло добра да таго часу, пакуль пячнік не спахапіўся: зарабіў і паклаў у кішэню 45 рублёў (на ранейшыя грошы), а на другі дзень аказалася менш. Які нячысцік апустошыў кашалёк? Здаецца, ніхто не пазычаў.

І ў наступны раз такое самае паўтарылася.

Няўжо жонка робіць рэвізію? У яе ж грошай і так хапае! Ад продажу яек, масла, малака ўсё забірае сабе, не называе суму.

Западозрыў пячнік у знішчэнні грошай сваю рахманую кабету. Вырашыў наладзіць праверку. Прыкінуўся п'яным, уваліўся ў хату, частку заробку аддаў жонцы, добра запомніў суму, якая засталася ў кашальку. Кінуў на крэсла пінжак і кінуўся ў пасцель. «Захроп». Крыху расплюшчыўшы вочы, пачаў назіраць за паводзінамі жонкі. Тая дастала кашалёк, пералічыла грошы, частку ўзяла сабе. Затым падышла да абраза, які вісеў у куце хаты і меў тоўстую раму. З яго дастала вузельчык і схавала канфіскаванае. Вузельчык і абраз занялі ранейшае месца. Мікола–цудатворац маўчаў.

Мужу хацелася ўскочыць і накрычаць на жонку. Але стрымаўся. Праз некаторы час зноў наладзіў такую таямнічую праверку.

Калі жонкі не было ў хаце, пячнік дастаў з–за абраза прыхаваныя ёю грошы і перанес у новы тайнік на гарышчы.

Кабета выявіла знікненне свайго "ашчаднага банка", накінулася на мужа. А той прыкінуўся невінаватым, гаварыў, што і ў яго нейкая нячыстая сіла выцягвала грошы.

– Не буду жыць з такім рабаўніком! – крычала абураная жонка. – Паеду да родных дачок у Паставы! Дастань фурманку!

Муж збегаў на канюшню, прыгнаў каня да хаты. З лямантам жанчына пагрузіла вузлы з бялізнай, адзеннем. Сусед адвёз "банкрута" у Паставы. Калі вярнуўся, быў запрошаны на банкет з выпадку такой падзеі.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

*ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ*

***Прапануем чытачу новую рубрыку. Жыццё нашае поўнае нечаканасцяў, анекдатычных выпадкаў. Дасылайце іх у рэдакцыю. Акрамя таго, што іх прачытаюць іншыя, аўтар лепшай гісторыі (вызначаць будуць самі чытачы) будзе мець магчымасць змясціць у «РГ» 3 прыватныя аб''явы – па–за чаргой і бясплатна. І атрымае павышаны ганарар.***

## "Наша служба и опасна, и смешна..."

Справа была зімой. Тры маладыя супрацоўнікі праваахоўных органаў скончылі работу позна ноччу. Моцна змерзлі, таму вырашылі зайсці ў кругласутачную краму, купіць што–небудзь для сугрэву.

Побач з магазінам знаходзіўся адміністрацыйны будынак, каля якога хлопцы і размесціліся. Праз некаторы час яны пачулі, што нехта спрабуе адчыніць дзверы з адваротнага боку будынка. Адрэагавалі імгненна – кінуліся выконваць свой службовы абавязак.

Невядомаму загадалі не рухацца, абшукалі. Вялікіх намаганняў каштавала гэтаму незнаёмцу даказаць, што ён дворнік і гэта яго тэрыторыя, а ў будынку знаходзіцца ўсяго толькі кладоўка.

*Анжаліка АРАБІНКА.*

*ГАРАСКОП 19–25 КРАСАВІКА*

**АВЕН (21.03–20.04)**
Добрыя дні 19, 20. Знойдзеш выйсце з праблем у бізнесе і пачнеш хутка рухацца да поспеху.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Кепскі дзень 23. Прыйдзецца шмат працаваць, каб дасягнуць сваёй мэты.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Важны дзень 24. Сустрэнешся са сваяком, які прапануе табе супрацоўніцтва.

**РАК (22.06–23.07)**
За ўсе справы возьмешся з энергіяй і ўпартасцю.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Добрыя дні 21–23. Даб'ешся вялікіх поспехаў у працы, будзеш задаволены спаўненнем ледзьве не ўсіх сваіх жаданняў.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Кепскі дзень 19. Абмяркуй з начальствам праблемы і ты атрымаеш дапамогу ў іх вырашэнні.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Будзеш усё трымаць пад сваім кантролем.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Кепскі дзень 25. Дасягнеш вяршыні поспеху.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Нечаканае становішча зменіць тваё жыццё ў лепшы бок.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Рабі ўсё магчымае, каб дабіцца свайго.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Добрыя дні 21–22, важны 23. Важная навіна зменіць твае адносіны да жыцця.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Супрацоўніцтва з новым партнёрам пачынай толькі пасля размовы–кансультацыі са сваім юрыстам.

## Каляндар на стагоддзе

*(з яго дапамогай вы можаце вызначыць любы дзень тыдня ў стагоддзі).*




### Год у бягучым стагоддзі

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 0 | 1 | 2 | 3 | * | 4 | 5 |
| 6 | 7 | * | 8 | 9 | 10 | 11 |
| * | 12 | 13 | 14 | 15 | * | 16 |
| 17 | 18 | 19 | * | 20 | 21 | 22 |
| 23 | * | 24 | 25 | 26 | 27 | * |
| 28 | 29 | 30 | 31 | * | 32 | 33 |
| 34 | 35 | * | 36 | 37 | 38 | 39 |
| * | 40 | 41 | 42 | 43 | * | 44 |
| 45 | 46 | 47 | * | 48 | 49 | 50 |
| 51 | * | 52 | 53 | 54 | 55 | * |
| 56 | 57 | 58 | 59 | * | 60 | 61 |
| 62 | 63 | * | 64 | 65 | 66 | 67 |
| * | 68 | 69 | 70 | 71 | * | 72 |
| 73 | 74 | 75 | * | 76 | 77 | 78 |
| 79 | * | 80 | 81 | 82 | 83 | * |
| 84 | 85 | 86 | 87 | * | 88 | 89 |
| 90 | 91 | * | 92 | 93 | 94 | 95 |
| * | 96 | 97 | 98 | 99 | * | * |

### Дні месяца

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| * | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | * | * | * |

### Месяцы

| Месяцы |
|---|
| II (звыч.), III, XI |
| II (высак.), VIII |
| V |
| I (звыч.), X |
| I (высак.), IV, VII |
| IX, XII |
| VI |

### № стагоддзя, зменшаны на 1

| | |
|---|---|
| 17, 21, 25, 29 | 0, 7, 14, 21, 28 |
| | 6, 13, 20, 27 |
| 16, 20, 24, 28 | 5, 12, 19, 27 |
| 15, 19, 23, 27 | 4, 11, 18, 25 |
| | 3, 10, 17, 24 |
| 18, 22, 26, 30 | 2, 9, 16, 23 |
| | 1, 8, 15, 22 |

**Дні тыдня: 0 – нядзеля, 1 – панядзелак, 2 – аўторак, 3 – серада, 4 – чацвер, 5 – пятніца, 6 – субота.**

*Вышэйшая ліга*

# Заканамерна, але мінімальна

11.04, 9300 гледачоў, гал. арбітр Генадзь Якубоўскі (Мінск).

**Славія (Мазыр)-Маладзечна 1:0**

9 Зрыбненка
10 Даніленка
6 Дзіковіч
8 Шамшорык
3 Жукоўскі
2 Бычкоўскі
7 Плют
5 Молаш
11 Д. Кабельскі
4 С. Кабельскі (кап.)
1 Васілеўскі

*Гол:* Чалей (51).
*Запасны:* Пясецкі.
*Папярэджанне:* Зрыбненка.
*Лепшыя ў складзе "Маладзечна":* Васілеўскі, С. Кабельскі, Молаш.

Нядзельным вечарам тэлебачанне паведаміла пра перамогу маладзечанцаў 1:0, пацвердзіў такую навіну наступнай раніцай і "Радыёфакт". Такім чынам беларускія электронныя СМІ падарылі многім балельшчыкам паўсутак шчаслівага настрою. Але, калі патэлефанаваў у клуб, не стаў спяшацца з віншаванкамі, а запытаў, ці праўда гэта. Як і адчуваў у глыбіні душы, мы прайгралі з тым жа аб'яўленым лікам. Футбол цудоўны сваёй непрадказальнасцю, але ж не да такой ступені!? Бо не можа і, бадай, не мае права выйграваць на выездзе супраць аднаго з фаварытаў каманда, што адправілася на гульню без галоўнага трэнера (падрабязнасці – у матэрыяле Юліі Ванслаў), у складзе дванаццаці чалавек, прычым чацвёра з якіх (трэцяя частка!) знаходзяцца яшчэ ў школьным узросце. Затое сёлета ў беларускія каманды вышэйшай лігі заяўлена дзевятнаццаць футбалістаў, што ў свой час пагулялі за маладзечанскі клуб.

Дэбютавалі за "Маладзечна" адразу восем чалавек. Больш было толькі ў самым першым туры першага чэмпіянату – уся каманда, натуральна. Разам з тым, лік – мінімальны. А ўжо ў суботу на матчы адкрыцця сезона ў Маладзечне (анонс у іншым суседнім матэрыяле) каманда абавязкова ўзмацніцца.

Выконваючы абавязкі галоўнага трэнера **Уладзімір Галубко** адзначыў, што хлопцы выстаялі ў першую чаргу псіхалагічна. Гульня не развалілася нават пасля прапушчанага гола. Надзейна стаяў на варотах **Аляксандр Васілеўскі**. Цэментаваў абарону, падчышчаў памылкі маладых партнёраў на новай для сябе пазіцыі універсал **Сяргей Кабельскі**, абраны капітанам каманды. Добра персанальна згуляў супраць вострага форварда **Валерыя Стрыпейкіса** наш **Павел Бычкоўскі**. А вядомага **Юрыя Антановіча** цалкам выключыў з гульні на фланзе **Дзмітрый Молаш**. Аднак паўабарона саперніка выглядала вельмі моцна. Расіяне **Дзмітрый Карсакоў**, **Алег Малюкоў**, **Алег Саматаў**, добра вядомы нам **Фёдар Лукашэнка** трывала валодалі ініцыятывай і давялі гульню да патрэбнага выніку.

У першым тайме маладзечанцы мелі некалькі момантаў: **Аляксандр Даніленка** прабіў побач са штангай, а **Віталь Дзіковіч** не ўдарыў як след галавою пасля навесу **Тараса Шамшорыка**. На 51 хвіліне суддзя прызначыў штрафны ўдар у бок нашых варот. **Дзмітрый Чалей** ў абвод сценкі прабіў дакладна пад перакладзіну. Спраўдзілася старая ісціна: нам забіваюць нашыя былыя гульцы. Больш забіць саперніку не далі, але і самі не мелі галявых момантаў.

Колькі слоў пра сітуацыю ў пярэдняй лініі. Аляксандр Даніленка на фоне партнёраў выглядаў нармальна, але ад такога дасведчанага футбаліста трэба чакаць большага. Праўда, апошні сезон ён правёў у другой лізе ў складзе "Вераса", так што патрэбны нейкі час. А **Івана Зрыбненку** можам павіншаваць. Ён першы футбаліст 1982 года нараджэння, які пачаў гуляць у беларускай мацнейшай лізе. Няма ў камандзе тых маладых нападаючых, якія прыйшлі (і пайшлі) разам з **Міхаілам Шутовічам**. **Руслан Лукін** пакуль не заяўлены, бо не ўладкаваныя ўзаемаадносіны з яго былым клубам, "Шахцёрам".

Чытачы, напэўна, звярнулі ўвагу, што мы назвалі лепшых гульцоў у складзе "Маладзечна". Будзем рабіць гэта па выніках кожнай сустрэчы. Па заканчэнні сезона падсумуем і назавем лепшых за ўвесь год. Просьба да футбалістаў не крыўдзіцца, калі ў нейкім адным матчы журналісты "РГ" не зусім правільна вызначаць самых адметных. У сезоне (чэмпіянат+Кубак) больш за трыццаць матчаў, і канчатковы вынік абавязкова будзе аб'ектыўны.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

### Вынікі першага тура

Ліда – Лакаматыў-96
0:0
Тарпеда-Кадзіна – Гомель
0:1
Дынама (Бр) – Свіслач-Кроўля
2:0
Белшына – Нафтан-Дэвон
2:2
**Славія – Маладзечна**
**1:0**
**БАТЭ – Тарпеда-МАЗ**
**2:1**
**Шахцёр – Дынама (Мн)**
**0:1**
Нёман-Белкард – Днепр-Трансмаш
0:2

Тоўстым шрыфтам пазначаныя вынікі ў залік нашага "Таталізатара".

### Заяўка "Маладзечна"

**Варатары**: Аляксандр Васілеўскі (1975, Тарпеда (Мн), Нёман, 83, -125) - падпісаў кантракт на 1 год, Максім Пясецкі (1968, Тарпеда (Ж), 26, -48; 6, -9) - аддадзены ў арэнду на 1 год.

**Абаронцы**: Віталь Бычкоўскі (1981) - кантракт на 3 гады, Аляксандр Вольскі (1974, Будаўнік, Дынама (Бр), Днепр-Трансмаш, 78, 1) - 1 год, Валерый Жукоўскі (1977) - 1 год, Дзмітрый Кабельскі (1979, 4, 0) - 1 год, Сяргей Кабельскі (1973, 123, 2) - 1 год, Аляксандр Лебедзеў (1970, 172, 1) - 1 год, Дзмітрый Молаш (1981) - 1 год, Павел Плют (1981) - 1 год, Павел Сядун (1974, Будаўнік, Тарпеда (Мг), Шахцёр, 72, 0) - 1 год.

**Паўабаронцы**: Марк Адо (1981) - 3 гады, Віталь Дзіковіч (1976) - 1 год, Аляксандр Новаш (1975, Атака, Тарпеда (Мн), 61, 3) - 5 месяцаў, Іван Зрыбненка (1982) - 1 год, Андрэй Цыбулька (1974, Тарпеда (Мн), Камунальнік, 91, 6) - 1 год, Тарас Шамшорык (1976, Тарпеда (Мн), 18, 3; 15, 3) - 6 месяцаў.

**Нападаючыя**: Віталь Вайцяховіч (1979) - 3 гады, Аляксандр Даніленка (1970, Тарпеда (Мн), Лакаматыў, Атака-Аўра, 96, 22) - 6 месяцаў, Павел Рыжэўскі (1981) - 3 гады.

Заўвагі: пасля прозвішча футбаліста ўказаны яго год нараджэння; іншыя каманды, за якія выступаў у вышэйшай лізе (назва даецца на час выступлення); колькасць праведзеных матчаў і забітых (для варатароў - прапушчаных) мячоў у вышэйшай лізе. Тоўстым шрыфтам пазначаныя гульцы, што раней выступалі за "Маладзечна", а таксама іх паказчыкі менавіта ў складзе "Маладзечна".

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Расследаванні*

# Сенсацыя мінулага тыдня

**Міхаіл Шутовіч** больш не галоўны трэнер ФК "Маладзечна" – на мінулым тыдні гэта стала сапраўднай сенсацыяй. Пра ўсё – з першых вуснаў.

**Уладзімір Галубко** (пятніца, вечар):

– Ёсць меркаванне, што прычына ў кіраўніцтве клуба.

– А хто будзе новым галоўным трэнерам?

– Не магу адказаць. Калі прапануюць мне гэтую пасаду, то адмоўлюся.

**Міхаіл Шутовіч** (субота, вечар):

– Афіцыйная версія гучыць так: кіраўніцтва клуба адмовілася падпісаць са мной кантракт. Гісторыя пачалася ўжо даўно, але інфармацыю пра яе ў прэсе бачыць не хацелася б.

– Ваш далейшы лёс?

– Што будзе, не ведаю. Цяпер мне проста хочацца адпачыць ад усяго.

**Мікалай Шрымф** (панядзелак, дзень):

– У мяне пакуль няма чаго казаць наконт гэтага. Пытанне яшчэ не вырашана канчаткова, і Шутовіч можа вярнуцца ў каманду. Заўтра будзе пасяджэнне рэгіянальнай федэрацыі футбола, пасля яго можна будзе пра нешта гаварыць.

**Канстанцін Харламаў** (панядзелак, дзень):

– "Беспредел". За тры дні да старту чэмпіянату "зняць" галоўнага трэнера! Так, падрыхтоўчы перыяд прайшоў няўдала. Трэба было проста папярэдзіць яго: "У цябе там і там не атрымліваецца". Раз–два – і "ўбралі". Паступілі недалікатна, некарэктна. На мой погляд, прычына тут у чымсьці асабістым.

**Юрый Лукін** (панядзелак, дзень):

– Складанае пытанне. Лічу, Шутовіч проста зразумеў, што сеў не ў той параход. Нешта ў яго пачалі здаваць нервы. Наогул, уся гэтая справа – не для прэсы.

**Альберт Дабранскі** (панядзелак, дзень):

– Хто вам сказаў, што Шутовіч пакінуў каманду? Заўтра будзе пасяджэнне рэгіянальнай федэрацыі футбола, і там гэтае пытанне канчаткова вырашыцца. Чалавек стараўся, працаваў, але трэба выслухаць і іншыя пункты погляду, калі яны будуць.



*Уладзімір Галубко галоўным трэнерам быць не хоча. Можа, таму, што лепш за іншых ведае стан спраў у футбольнай гаспадарцы і ля яе?*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

Альберт Дабранскі (панядзелак, вечар):

– Я – не прыхільнік зменаў, калі каманда застаецца без галоўнага трэнера за некалькі дзён да пачатку чэмпіянату. Сёння Міхаіл Шутовіч напісаў заяву пра свой адыход, а заўтра будзе вядома прозвішча яго пераемніка.

**Мікалай Шрымф** (серада, дзень):

– Мы проста не знайшлі ўзаемаразумення.

**Васіль Віскушэнка** (серада, дзень):

– Магчыма, Міхаіл Шутовіч і кіраўніцтва клуба не сышліся ў поглядах. Магчыма, нешта яму не спадабалася. Не ведаю.

Кожны, як відаць, абараняе ўласныя інтарэсы і падчас не можа выказацца шчыра. Спадзяюся, ісціна недзе "пасярэдзіне"?

**P. S.** Як стала вядома, новым галоўным трэнерам ФК "Маладзечна" прызначаны **Барыс Лазарчык** – мінчанін, 1948 года нараджэння.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

*Конкурс*

# Адзін пераможца ёсць

***Дзякую ўсім, хто ўзяў удзел у нашым конкурсе–футболпрагнозе. Усяго зарэгістравана 25 купонаў: 20 з іх прыйшлі з Маладзечна, па 2 – з паселка Беразінскае і са Смаргоні і 1 – з Вілейкі. Прыемна, што ў конкурсе бярэ ўдзел і дзяўчына: гэта Алена Сасіновіч.***

Натуральна, усіх цікавіць, хто найчасцей сустракаўся ў вашых варыянтах, шаноўныя чытачы. Прывяду некалькі цікавых, на мой погляд, лічбаў. Пераможцамі гэтага турніру многія бачаць **Юлію Ванслаў і Івана Меньшчыкава** – па 7 разоў (56% ад ўсёй колькасці варыянтаў). Самым папулярным фіналістам з'яўляецца вядучы конкурсу. У яго 9 "галасоў" (36%). Увогуле, больш за ўсіх у "бюлетэні" траплялі Іван Меньшчыкаў – 12 разоў (7 першых месцаў + 5 другіх) і аўтар гэтых радкоў – таксама 12 разоў (3 + 9), а самымі папулярнымі парамі фіналістаў з'яўляюцца Ю. Ванслаў – І. Меньшчыкаў і **Ю. Карпіцкі** – І. Меньшчыкаў – па 4 (2 + 2) разы.

Многіх з вас цікавіць пытанне: каму дастанецца падпіска? Нагадаю, яе атрымае той, хто прыслаў найбольшую колькасць купонаў. Па 2 прыслалі **Валерый Лужынскі, Мікалай Хадасевіч і Уладзімір Лазучонак**. 3 купоны я атрымаў ад **Вячаслава Цэлікава,** але ніхто не змог скласці канкурэнцыю **Аляксандру Полазу**, ад якога прыйшло ажно 7 варыянтаў. Менавіта ён і становіцца ўладальнікам квартальнай падпіскі на "РГ". Просьба да яго, каб патэлефанаваў у рэдакцыю.

В. Лужынскі і В. Цэлікаў даслалі, акрамя купонаў, яшчэ і прагнозы на матчы. Заўважу, што ў графе "лік" трэба было паставіць лік галоў у фінальным матчы, напрыклад, (2:0; 3:2), а не сукупную колькасць зыходаў (менавіта так я зразумеў з варыянтаў са Смаргоні).

Цяпер пра пасляматчавыя пенальці. Як і ў футболе, яны прызначаюцца, калі асноўны і дадатковы час не выяўляюць мацнейшага. Сапернікі каля любых 5 прагнозаў з 13 (вядома, найбольш простых, на іх погляд) ставяць літару "П". Калі гулец адгадвае зыход з літарай "П", то ён забівае свой удар. А калі і тут будзе нічыя, то прызначаецца другая серыя: тут разглядаюцца ўсе прагнозы з першага па апошні. І ў каго раней сустрэнецца адгаданы зыход з літарай "П", той і пераможца. А калі і тут будзе нічыя, то пераможцам будзе той, хто мае найменшы рэгістрацыйны нумар (раней аформіць сваю заяўку на турнір). Так што той, хто заявіцца раней, будзе мець хоць невялікую, але перавагу.

У наступным нумары будзе надрукаваны купон, дзякуючы якому ўжо вы, паважаныя чытачы, зможаце пагуляць у гэтую цікавую гульню. Запрасіце да ўдзелу у ёй вашых родных, блізкіх, знаёмых, сяброў, калег, таму што гэтая гульня аб'ядноўвае людзей усіх узростаў і сацыяльных катэгорый. Галоўная ўмова – любіць і паважаць футбол.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

*Клуб Спартыўных Фанатаў*

# Больш за тры не прапусцяць

Чэмпіянат Беларусі па футболе ўжо распачаўся, і я паранейшым чакаю вашыя "прагнозы" на гульню ФК "Маладзечна" ў гэтым сезоне. А пакуль знаёмцеся з меркаваннем навучэнкі маладзечанскага ўлікова–планавага тэхнікума **Алесі Краскоўскай**:

– Шмат што будзе залежаць ад галоўнага трэнера. Калі ён здолее настроіць каманду пабайцоўску на кожны матч, вынік атрымаецца станоўчы. Актыўная падтрымка балельшчыкаў таксама не зашкодзіць.

Варатар футбольнай каманды Маладзечанскай ДЮСШ (1985 г. н.) **Андрэй Вяль** упэўнены:

– Клуб павінен захаваць месца ў вышэйшай лізе. Максімальная колькасць галоў, прапушчаных нашай камандай у адным матчы, не будзе большай за тры.

Далучайцеся да разважанняў, і пра вашыя думкі (вашую кампетэнтнасць і прадбачлівасць) даведаецца ўвесь рэгіён.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

**P. S.** 23 красавіка братам Макоўскім спаўняецца па 22. Калі вы хочаце павіншаваць іх, пакладзіце канверт са сваёй віншаванкай ў другі з наступным адрасам: "Рэгіянальная газета" (Клуб Спартыўных Фанатаў), 68А, Вялікі Гасцінец, 222310, Маладзечна.

# "Таталізатар": пераможцы першага раунда

Мы атрымалі 18 купонаў. Лік матча "Маладзечна"-"Славія" дакладна не спрагназаваў ніхто. БАТЭ-Тарпеда-МАЗ - 5 правільных варыянтаў, "Шахцёр" - "Дынама" (Мн) - 4. У двух купонах, дасланых **Яўгенам Калашнікавым** з Чысці і **Мікалаем Хадасевічам** з Беразінскага, адгаданыя два вынікі. Прычым першага назавем маральным пераможцам конкурсу, бо на гульню ў Мазыры паставіў прагноз 2:0, тады як яго канкурэнт быў крыху далей ад ісціны - 3:0. Такім чынам, гэты матч аказаўся нераскусаным арэшкам для ўдзельнікаў, і наш прыз у першым туры неразыграны.

**2–і раунд: яшчэ ёсць час**

Купон надрукаваны ў мінулым нумары. Апошні дзень адпраўкі прагнозаў - 16 красавіка.

**3–і раунд. Кубкавыя матчы**

Прапануем купон з матчамі 1/4 Кубка Беларусі. Анонсы будуць праз тыдзень. Апошні дзень адпраўкі - 28 красавіка.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

| № | Матчы (29 красавіка) | Лік-прагноз |
|---|---|---|
| 1. | БАТЭ – Днепр–Трансмаш | |
| 2. | Гомель – Славія | |
| 3. | Маладзечна – Тарпеда–МАЗ | |

Прозвішча ________ Адрас ________
Імя ________ Тэлефон ________

## АНОНС

# Маладзечна – БАТЭ

***17 красавіка. Пачатак – 17.00. Кошт білета – 30 тысяч рублёў (дзіцячы – 10 тысяч).***

У нас змогуць выйсці на поле **Аляксандр Лебедзеў** і **Андрэй Цыбулька**, якія прапускалі стартавую сустрэчу з-за дыскваліфікацый у апошнім леташнім туры. Павінен паправіцца пасля траўмы **Аляксандр Новаш**, а вось **Аляксандр Вольскі**, магчыма, пачне гуляць толькі ў другім крузе. Хварэе цяпер **Павел Сядун**.

Барысаўчане выйгралі цэнтральны матч мінулага тура, прычым іх трэнер **Юрый Пунтус** застаўся вельмі задаволены дзеяннямі сваіх падапечных. Лепш за іншых выглядаў нападаючы **Віталь Кутузаў**, які адкрыў лік на 37 хвіліне. На 56–й сапернікі аднавілі раўнавагу, але гаспадары праявілі сапраўдны характар, і на 86–й **Аляксандр Лісоўскі** паставіў пераможную кропку. Спадабаўся прысутным сваёй гульнёй малады **Аляксандр Глеб** (1981), які выйшаў на замену.

Спадзяемся, што ў суботу трыбуны гарадскога стадыёна ў Маладзечне будуць запоўненыя. Дэбютантам каманды вельмі патрэбна адчуваць падтрымку балельшчыкаў.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

## СПРАВЫ ГРАШОВЫЯ

| 8 красавіка 1999 г. | | 15 красавіка 1999 г. | |
|---|---|---|---|
| 1. Курсы валют НБ РБ: | | 1. Курсы валют НБ РБ: | |
| Долар (уст.) | 239000 | Долар (уст.) | 241000 |
| Марка (уст.) | 131950,22 | Марка (уст.) | 133251,56 |
| Літ | 59741,04 | Літ | 60263,56 |
| Рас. руб. (уст.) | 9520 | Рас. руб. (уст.) | 9700 |
| Злоты | 599599,86 | Злоты | 60682,36 |
| ЕЎРА | 258072,20 | ЕЎРА | 260617,50 |
| 2. "Вулічныя" курсы куплі-продажу доляраў: | 350000 — 370000 | 2. "Вулічныя" курсы куплі-продажу доляраў: | 350000 — 370000 |



## ВІНШАВАНКІ

**Паўлу Жукаву** з Мядзела. Павел, віншую цябе з юбілеем, жадаю заўсёды заставацца такім, якім ты ёсць: жыццярадасным, упэўненым у сваіх сілах і сваёй праўдзе, здаровым, вясёлым. Вострага табе пяра заўсёды і добрага клёву - каб на юшку хапала. ***Алесь Манцэвіч***, Вілейка.

**Паўлу Сямёнавічу Жукаву, рэдактару газеты «Нарачанская зара».**

Шаноўны калега, віншуем цябе з 50-годдзем! Няхай у тваім жыцці ладзіцца ўсё: у сям"і, на рабоце, з сябрамі. Няхай чаканымі заўжды будуць добрыя госці, а неспадзяванымі толькі раптоўна напаткаўшыя ўласныя юбілеі. Моцнага духу! ***Сябры з «Рэгіянальнай газеты».***



**Дырэктару аўтобуснага парка № 4 г. Маладзечна П. Я. Мамчыцу.** Паважаны Пётр Якаўлевіч! Ад усёй душы віншуем Вас з 60-годдзем. Зычым бадзёрасці, дабрабыту, аптымізму і ўсяго найлепшага.

Жадаем быць заўжды здаровым,
Не ведаць смутку і няўдач.
І справядлівым быць, і строгім
У вырашэнні ўсіх задач.
Хай спорыцца любая справа,
Не сустракайцеся з бядой.
І колькі б год не мінавала -
Душа хай будзе маладой.

***З павагай калектыў аўтавакзала г. Маладзечна.***

Дарагі **Андрэй Жаўтко**! Віншуем з 16-годдзем. Жадаем здароўя моцнага, шчасця і цяпла, сяброў сардэчных і дабра. Няхай здзейсняцца твае мары! ***Бацькі, сёстры, Ілья.***

Віншую **Генадзя Лужынскага** з днём нараджэння. Жадаю поспехаў у вучобе і спорце і ўсяго самага найлепшага. ***Мікалай Хадасевіч.***

Віншуем з 50-годдзем **Галіну Аляксандраўну Сцяпанаву**! Жадаем моцнага здароўя, шчасця і доўгіх гадоў жыцця! ***Родныя.***

Віншую з днём нараджэння **Аляксандра Жаўтко**! Жадаю поспехаў у вучобе, вялікага шчасця, моцнага здароўя і ўсяго самага найлепшага. Твой ***брат Лёша.***

Віншуем з днём нараджэння **Юрыя Новіка**! Жадаем моцнага здароўя, шчасця ў жыцці, поспехаў у вучобе, веснавога настрою! ***Люда, Слава, Света.***

Віншуем з днём нараджэння **Клаўдзію Уладзіміраўну Новік**! Мы желаем от чистого сердца радости в жизни, успехов везде, счастья побольше, здоровья покрепче, долгую-долгую жизнь на земле! ***Сын, нявестка, унучка.***

Віншуем з 16-годдзем **Іну Козел**. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе і ўсяго самага найлепшага. ***Бацькі і брат Дзіма.***

Віншуем з днём нараджэння **Галіну Уладзіміраўну Баранаву**! Жадаем шчасця і дабра, надзей, сямейнага цяпла. ***Сябры з Вілейкі.***

Віншуем з 18-годдзем **Таццяну Рашэтнікаву**! Жадаем усяго самага найлепшага, шчасця, здароўя і ўсяго толькі добрага ў тваім жыцці. ***Сем'і Казакевічаў і Гісічаў.***

Віншуем любімую **Анютку Дурко** з днём нараджэння! Жадаем быць заўсёды здаровай, вясёлай, шчаслівай, хай збудуцца ўсе твае мары! ***Мама, тата, бабуля, дзядуля і Ірынка.***

З днём нараджэння віншуем **Насцечку Барэйку**! Жадаем расці здаровай, бадзёрай, прыгожай, часцей усміхацца. ***Дзядуля, бабуля, Нэла, Толя, Аня і Ірынка.***

Віншуем з 17-годдзем **Ларысу Малашку**! Жадаем здароўя, поспехаў у жыцці, кахання і верных сяброў. ***Твае мама і Аня.***

Дарагая наша мамачка і бабуля **Вера Уладзіміраўна Зайчанкова**! Віншуем з 60-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, даўгалецця.

**Тамару Іванаўну Васюту** віншую з днём нараджэння! Жадаю усяго самага-самага найлепшага. ***Хроснік Валянцін.***

**Ганна Алегаўна Матусевіч і Валянціна Алегаўна Фядзенка**! Любыя нашы дзве матулі, віншуем вас з 44-годдзем. Жадаем шчасця і дабра, усмешкі, сонца і цяпла. ***Дачка, зяць і ўнук Максім.***

Віншуем з сярэбраным вяселлем **Барыса Мікалаевіча і Ганну Міхайлаўну Шчуцкіх**. Гордимся, любим, уважаем. ...Года как птицы пролетели, И серебро венчает юбилей. Тепла, здоровья, изобилья, От всей души желаем вам. ***Вашыя дзеці Андрэй і Вольга.***

Віншуем з днём нараджэння **Ганну Барысаўну Грыб**! Жадаем шчасця, здароўя і ўсяго толькі добрага ў тваім жыцці. ***Сям"я Артыкбаевых.***

**Пятру Іосіфавічу Аўдзею** з Вілейкі. Віншуем з днём нараджэння! Поспехаў у асабістым жыцці, здароўя, шчасця і даўгалецця. ***Рая.***

Дарагая **мама Валя**! Віншуем цябе з днём нараджэння. Пусть сбудутся твои и Лёнины мечты, Пусть будет радость и здоровье. И пусть на всех хватает сил. И каждый день обычной жизни, Чтоб только радость приносил. ***Сям"я Ракевічаў*** з найлепшымі пажаданнямі да сям"і Дубовікаў.

Дарагая наша мамачка і бабуля **Наталля Фёдараўна Васюта**! Віншуем з днём нараджэння! Жадаем сямейнага дабрабыту, бадзёрас, моцнага здароўя, заставайся заўсёды такой прыгожай і клапатлівай. ***Твае дзеці, муж і ўнук Вадзім.***

## ЗНАЁМСТВЫ

Жанчына, 29/176, цікавая, стройная, пазнаёмлюся з разумным мужчынам да 39 год, пажадана, Рыбай па гараскопе. Маладзечна-6, д/з п/п МС0304726.

Жанчына, 47 год, добрая гаспадыня, працавітая, жадае пазнаёміцца з мужчынам, забяспечаным жыллём. Маладзечна, 222310, д/з п/п № 4140951.

Мужчына, 46/170/75, забяспечаны жыллём, пазнаёміцца з жанчынай для стварэння сям'і. Маладзечна-6, п/п 654293.

Адзінокая прывабная жанчына, 43/162, пазнаёміцца з прыстойным мужчынам да 55 год, які не п'е, не судзімы, 222310, Маладзечна-6, д/з п/п 42 № 4603162.



**16 КУПОН для бясплатнай аб'явы**

Бясплатна змяшчаюцца аб'явы **толькі ў рубрыкі "Знаёмствы" і віншаванкі** аб'ёмам да 15 слоў. **Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

тэкст аб'явы

Рэгіянальная газета

Прозвішча, імя, адрас (не для друку):

